У НУМАРЫ




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (789) ГОД XVI БЕЛАСТОК 11 КРАСАВІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.


## XV ГОД

## Людское сумленне да працы

Аляксандр Харкевіч з Ляшукоў: Мы, ведаеце, ужо ў 47-ым годзе ставілі тут п'есу К. Крапівы «Партызаны».

В. Л.: Пачалі вы не ад лёгкіх рэчаў.

— Цяпер я не адважыўся б на яе.

— А чаму тады адважыліся?

—Маладзейшы быў, быў запал у моладзі да працы і моладзі было колькі! Не было вакол прамысловасці. горад быў не такі модны. У нашых п'есах выступала тады па 40 асоб. Мы кругом выязджалі з пастаноўкамі. У Ляўкове нарадзілася думка, каб арганізаваць настаўніцкі драмгурток. Былі яшчэ ў Ляўкове тады Івацік, Марыся Грыц,



Аляксандр Харкевіч, Галя Стоцкая. На адкрыцці святліцы ў Ляўкове гэты гурток ставіў «Паўлінку» Янкі Купалы.

— Хто быў Паўлінкай, бо яна ж многа спявае?!

— Марыся Грыц, цяпер Даніловіч і ў Варшаве. Гэта гэтага Кастуся з БГКТ у Гайнаўцы дачка. Як паўстала Беларускае таварыства, мы пачалі дзейнасць больш арганізавана.

— 15 год працы вас не стамілі?

— На сілах я вельмі добра адчуваю сябе, мо таму, што няма часу на стомленасць. Зрэшты, чалавек не стамляецца, калі бачыць, што праца яго карысная і людзі задаволены. Не шкадуе тады дзён пражытых і прапрацаваных.

— А як цяпер у вас?

— Моладзі мала. У горад пайшлі. І па-суседску вялікую керамічную фабрыку пабудавалі. Адарваліся маладыя.

— Ці гэта абазначае канец вясковай традыцыі культурнай працы?

— Я б так не сказаў. Традыцыя засталася, але выступаюць у жыцці такія этапы, калі адно пакаленне адыйдзе, а наступнае яшчэ не прыйдзе.

— Верыце ў наступнае пакаленне ляшукоўцаў? Колькі яму цяпер год?

— 16—17. Бачу, што яны будуць прывязаны да вёскі, бо тут працуюць.

Працяг на стар.4



*Квартэт з бельскага беларускага ліцэя.*

МІЖШКОЛЬНЫ КОНКУРС ПЕСНІ

21 III.1971. Зала ў гайнаўскім Доме настаўніка перапоўнена моладдзю. Дзіцячыя твары напружана ўсхваляваныя. Усе тут сёння артысты. Сюды сабраліся на ваяводскі міжшкольны конкурс беларускай песні дзеці і ліцэальная моладзь з усходніх паветаў.

Зала падзялілася на каляровыя групкі. Вось сядзяць дзяўчаты з Бельска ва ўрачыстых белых блузках, упрыгожаных хітрымі фальбанкамі, у другім канцы залы — сямяціцкі дзявочы квартэт з велізарнымі жоўта-фіялетавымі бантамі на зграбных, вучнёўскіх святочных касцюмах. Рознымі фарбамі вясёлкі ўпрыгожваюць залу стылізаваныя беларускія касцюмы з міні-спадніцамі ліцэістак з Гайнаўкі, школьніц з Вілінава і іншых.

Арганізатарам міжшкольнага конкурсу было Галоўнае праўленне Беларускага таварыства разам з Беластоцкай кураторыяй, Акруговым метадычным цэнтрам і рэдакцыяй «Ніва».

Ганаровымі госцьмі на конкурсе былі старшыня Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы Мікалай Самоцік, сакратар ПК па справах сельскай гаспадаркі тав. Дваракоўскі, дырэктар беларускага ліцэя ў Гайнаўцы І. Іванюк і сакратар ГП БГКТ Я. Зенюк.

Гэта быў трэці і заключны этап міжшкольнага конкурсу: І этап — унутрышкольныя конкурсы, ІІ этап — павятовыя конкурсы. І вось ІІІ этап — ваяводскі конкурс.



*Оля Парфенюк атрымала спецыяльную ўзнагароду «Зоркі».*




Пад агульнае брава гледачоў першае месца журы прызнала Веры Фірсюк з Гайнаўскага ліцэя. Другое месца — Юрку Харкевічу з таго ж ліцэя. Бельскі ліцэй салістаў не прыслаў, затое заняў першае месца сярод дуэтаў спевам Люды Рыбак і Елі Самоцік.

Добра спявалі ў сольным выступленні вучаніцы падставовых школ. Асабліва спадабалася гледачам шасцікласніца з Кленік Гайнаўскага павета Оля Парфенюк. Калі ж пазней Оля выступіла яшчэ ў дуэце з Зінай Лабузінскай, гледачы не хацелі адпусціць іх са сцэны і дапрасіліся выступлення «на біс». Камісія гэтым самым вымушана была зрабіць выключэнне з агульных правілаў конкурсу для наймалодшых удзельніц, якія так спадабаліся гледачам.

Працяг на стар.4



*Оля Самоцік і Люда Рыбак — дуэт з бельскага ліцэя.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ 23-га сакавіка станоўча ацаніў падрыхтоўку і правядзенне ўрачыстага пленума з нагоды 15-ай гадавіны Беларускага таварыства. Прыняў праект інструкцыі адносна справаздачна-выбарчай кампаніі, якая ў БГКТ у чацвертым квартале бягучага года (VII з'езд БГКТ адбудзецца ў 1972 годзе) і азнаёміўся з зацверджаным Міністэрствам унутраных спраў бюджэтам для БГКТ на 1971 год.

■ 28-га сакавіка адбыліся агляды драматычных калектываў з беларускім рэпертуарам у паасобных аддзелах БГКТ. І так, у Бельскім аддзеле ў аглядзе выступілі: самадзейнікі з Мокрага (мастацкі кіраўнік Павел Нікіцюк), самадзейнікі з Локніцы (мастацкі кіраўнік Янка Сцепанюк), моладзь з Паўлаў (мастацкі кіраўнік Валя Амельянюк) і моладзь з Рыбалаў (мастацкі кіраўнік Валя Андрэюк). Аматары з Рыбалаў будуць рэпрэзентаваць бельскі аддзел у Беластоку на цэнтральным аглядзе, які арганізоўвае штогод ГП БГКТ супольна з іншымі арганізацыямі і ўстановамі.

Сямяціцкі аддзел арганізаваў агляд драмгурткоў у прыгожай, новай школе ў Семіхочах. Там мясцовы драмгурток пад кіраўніцтвам Тадэвуша Ваўжыняка падрыхтаваў «Прымакі». У аглядзе апрача гэтага драмгуртка выступілі самадзейнікі з Вілінава і Літвінавіч. Літвінавічы будуць рэпрэзентаваць сямяціцкі аддзел у Беластоку.

У пянькоўскай святліцы агляд драмгурткоў арганізаваў беластоцкі аддзел. Там да агляду рыхтавалася 5 драмгурткоў, а выступіла толькі два. Аматары з Пянькоў рыхталіся пры дапамозе інструктара з дома культуры ў Міхалове Мікалая Баўтручука, а самадзейнікі з Міхалова працавалі пад мастацкім кіраўніцтвам кіраўніка гэтага дома культуры Рышарда Варабея. У Беласток паедуць самадзейнікі з Міхалова. (мх)

Нашым чытачам і сімпатыкам шлем сардэчныя святочныя прывітанні. «НІВА»



# СТРАТЭГІЯ МІРУ

XXIV з'езд КПСС карыстаецца вялікім зацікаўленнем ва ўсім свеце. Апрача шматлікіх публікацый на тэмы з'езда выказаліся таксама прадстаўнікі некаторых заходніх краін, якія заявілі, што іх урады старанна вывучаюць даклад Леаніда Брэжнева, які ён меў на XXIV з'ездзе, а асабліва яго першую частку.

Замежная палітыка СССР стала тэмай першага раздзела справаздаўчага даклада. Вызначаючы ўнутранае развіццё краіны, КПСС заўсёды ўлічвала становішча спраў на сусветнай арэне. «У галіне міжнароднага развіцця, — гаворыцца ў дакладзе, — гэта былі гады вялікіх сацыяльна-палітычных змен, гады вострага праціборства паміж сіламі міру, свабоды, прагрэсу і сіламі прыгнечання, рэакцыі і агрэсіі. Гарызонты планеты не раз зацягваліся хмарамі ваеннай небяспекі. Але кожны раз імперыялістычныя намеры сустракалі рашучы адпор. Савецкі Саюз і брацкія сацыялістычныя краіны ўнеслі вялікі і актыўны ўклад у барацьбу за мір і бяспеку народаў. Міжнародныя пазіцыі нашай Радзімы сталі яшчэ больш надзейнымі, узрасла роля сусветнай сістэмы сацыялізма. Працягваў умацоўвацца і паглыбляцца вялікі саюз трох асноўных сіл сучаснасці — сацыялізма, міжнароднага рабочага руху і нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў».

З прызнаннем прыняла грамадскасць Польшчы словы: «Непахісная наша дружба з Польскай Народнай Рэспублікай. Мы з глыбокім задавальненнем адзначаем, што ў брацкай Польшчы былі пераадолены ўзнікшыя там цяжкасці. Польская аб'яднаная рабочая партыя ажыццяўляе меры, накіраваныя на тое, каб умацоўваліся яе сувязі з рабочым класам і ўсімі працоўнымі, станавіліся ўсё больш трывалымі пазіцыі сацыялізма ў краіне. Камуністы Савецкага Саюза ад душы жадаюць польскім сябрам самых вялікіх поспехаў».

XXIV з'езд пацвердзіў, што асаблівае значэнне КПСС надавала развіццю супрацоўніцтва з камуністычнымі партыямі брацкіх краін. «Такое супрацоўніцтва, — чытаем у дакладзе, — дало магчымасць нам, узбагачаючыся вопытам адзін аднаго, разам распрацоўваць прынцыповыя праблемы сацыялізма і камунізма, знаходзіць найбольш рацыянальныя формы эканамічных сувязей, калектыўна выпрацаваць агульную лінію ў знешнепалітычных справах, абменьвацца думкамі па пытаннях работы ў галіне ідэалогіі і культуры». Служыла гэтаму каардынацыя знешнепалітычнай дзейнасці ў рамках Варшаўскага Дагавору. Наяўнымі прыкладамі супольных дзеянняў сацыялістычных краін былі: ініцыятыва выстаўлення разгорнутай праграмы ўмацавання міру ў Еўропе ці той факт, што не былі ажыццёўлены існаваўшыя ў НАТО планы допуску мілітарыстаў ФРГ да ядзернай зброі. Сумесныя намаганні сацыялістычных дзяржаў дазволілі ўмацаваць міжнародныя пазіцыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Абвергнута т.зв. «дактрына Хальштэйна». ГДР прызнана ўжо 27 дзяржавамі.

Не меншае значэнне мае супрацоўніцтва ў эканамічнай галіне. У мінулыя пяць гадоў пры тэхнічным садзейнічанні СССР у сацыялістычных краінах пабудавана або рэканструявана больш за 300 прамысловых і сельскагаспадарчых аб'ектаў. У сваю чаргу народная гаспадарка Савецкага Саюза атрымала за мінулую пяцігодку з краін Савета эканамічнай узаемадапамогі (СЭУ) абсталяванне для 54 хімічных заводаў. Аднак сацыялістычны падзел працы выкарыстоўваецца яшчэ не поўнасцю і таму неабходна яго паглыбляць.

Сацыялістычная палітыка міру і ўмацавання міжнароднай бяспекі была на XXIV з'ездзе ўсебакова абгрунтавана. Канструктыўнае становішча вялікай сацыялістычнай дзяржавы знайшло пацвярджанне ў становішчы ў адносінах да кожнай з актуальных праблем. Адносіцца гэта да рашучага асуджэння злачыннай агрэсіі ЗША супраць народаў В'етнама, Камбоджы і Лаоса, а таксама паведамленне аб далейшай брацкай дапамозе ў іх гераічнай барацьбе. Шырокае адлюстраванне знайшло таксама становішча ў справе блізкаўсходняга крызісу. СССР выказвае гатоўнасць устанавіць міжнародныя гарантыі палітычнага ўрэгулявання гэтай праблемы, што ў сваю чаргу магло б прычыніцца да пераўтварэння Міжземнага мора ў мора міру і дружалюбнага супрацоўніцтва.

Не патрабуюць каментарыя словы Л. Брэжнева, якія адносяцца да акрэсленых напрамкаў у палітыцы ЗША і НАТО: «З усёй адказнасцю мы заяўляем: у нас няма тэрытарыяльных прэтэнзій да каго б там ні было, мы нікому не пагражаем і ні на каго не збіраемся нападаць, мы стаім за свабоднае і незалежнае развіццё ўсіх народаў. Але няхай і з намі ніхто не спрабуе размаўляць мовай ультыматумаў і сілы».

Зыходзячы з такога становішча, Савецкі Саюз аднавіў і ўзбагаціў свае прапановы адносна канкрэтных дзеянняў, якія б маглі прынесці прагрэс у галіне рэалізацыі ідэі міжнароднага раззбраення. Ва ўсім свеце праводзіцца аналіз зместу чатырнаццаці пунктаў, якія ў дакладзе падсумоўваюць міжнародную палітыку Савецкага Саюза. Асаблівая ўвага звяртаецца на пункт, у якім гаворыцца аб ядзерным раззбраенні ўсіх дзяржаў, якія маюць ядзерную зброю, і аб скліканні з гэтай мэтай канферэнцыі пяці ядзерных дзяржаў — СССР, ЗША, КНР, Францыі і Англіі.

З'езд КПСС — гэта трыбуна перадавой кампартыі, якой гісторыя вызначыла асаблівую ролю. Але гэта адначасова трыбуна міжнароднага камуністычнага руху, а сведчыць аб гэтым хаця б прысутнасць на XXIV з'ездзе больш чым 90 дэлегацый кампартый з усіх кантынентаў. (АК)

## ВАЯВОДСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАРП

# З думкай аб далейшым развіцці Беласточчыны

3 і 4 красавіка г.г. адбылася ў Беластоку Ваяводская справаздаўча-выбарная канферэнцыя ПАРП. Партыя ў ваяводстве налічвае звыш 63 тысяч членаў. На канферэнцыі прадстаўляла іх 275 дэлегатаў, у тым ліку 75 рабочых, 72 сялян, 64 жанчыны, 51 маладзёжны дзеяч. Удзельнічалі таксама запрошаныя госці, а цэнтральныя ўлады прадстаўлялі намеснік члена Палітычнага бюро ЦК ПАРП, віцэ-прэм'ер М. Ягельскі, кіраўнік эканамічнага аддзела ЦК ПАРП С. Кузінскі, міністр будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў А. Герш, намеснік кіраўніка арганізацыйнага аддзела ЦК ПАРП Ул. Вішнеўскі, намеснік кіраўніка сельскагаспадарчага аддзела ЦК ПАРП Р. Стахурка і намеснік кіраўніка замежнага аддзела ЦК ПАРП З. Войташэк.

З дакладам Экзекутывы ВК ПАРП, які вызначыў галоўныя напрамкі далейшай дзейнасці ваяводскай партыйнай арганізацыі, выступіў I сакратар ВК А. Лашэвіч. Сцвердзіў ён, што палітычная лінія партыі, вызначаная на VII і VIII пленумах ЦК, атрымала ў ваяводскай партыйнай арганізацыі, сярод рабочага класа і абсалютнай большасці грамадства поўную падтрымку. Аднак ажыццяўленне пастаноў VII і VIII пленумаў не праходзіць без перашкод. Ёсць сілы, якія актыўна падтрымліваюць замежныя дыверсійныя цэнтры, якія робяць усё, каб пахіснуць давер да новага партыйнага кіраўніцтва і да партыйнай праграмы наогул. Асноўнай умовай ажыццяўлення праграмы партыі з'яўляецца афензіўная дзейнасць усіх членаў і кандыдатаў ваяводскай партыйнай арганізацыі, усіх яе звенняў. Таму трэба павышаць ранг ідэйна-выхаваўчай працы, звяртаць асаблівую ўвагу на змест гэтай працы і яе сувязь з жыццём. Палітычна-арганізацыйная дзейнасць партыйных інстанцый і арганізацый павінна абапірацца на глыбокім веданні настрояў і патрэб грамадства, на разбуджэнні і адпаведным выкарыстанні грамадскіх пачынанняў.

Затым з дакладам выступіў намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Е. Зентара. Звярнуў ён увагу на пытанні грамадска-гаспадарчага развіцця Беласточчыны, а таксама на праблемы ўдасканальвання працы радаў. Сцвердзіў ён, што найважнейшай галіной гаспадаркі ваяводства з'яўляецца сельская гаспадарка. У гэтай галіне як асноўны напрамак прымаецца развіццё жывёлагадоўлі. Звярнуў ён таксама ўвагу на нізкі яшчэ ўзровень развіцця прамысловасці на Беласточчыне. Таму павінна тут — з увагі на характар ваяводства — развівацца перш за ўсё сельскагаспадарча-спажывецкая прамысловасць, асабліва мясная. Дакладчык падкрэсліў таксама неабходнасць актывізацыі малых мястэчак і паправы сацыяльна-бытавых умоў насельніцтва.

Дыскусія канцэнтравалася на справах, пастаўленых у справаздачы аб дзейнасці ваяводскай арганізацыі ў 1969—1970 гадах, у праекце праграмы дзейнасці на 1971—1972 гады (якія дэлегаты атрымалі раней) і ў абодвух дакладах, прачытаных на канферэнцыі. Была яна канструктыўнай і гаспадарскай. Дэлегаты ўзнімалі істотныя справы ваяводства, наветаў і грамад, паказвалі рэзервы палітычнай і эканамічнай актывізацыі Беласточчыны. Аб актыўнасці дэлегатаў сведчыць факт, што да дыскусіі запісаліся аж 63 таварышы. Абмежаваны час дазволіў выступіць 28. Аднак прапановы ўсіх (хто не змог выступіць, меў права злажыць свае прапановы да пратакола) будуць разгледжаны аднолькава.

У другі дзень канферэнцыі выступіў Мечыслаў Ягельскі. Прадставіў ён шэраг галоўных праблем, звязаных з сучасным становішчам і гаспадарчай палітыкай, а таксама з перспектывамі развіцця нашай гаспадаркі. Прамоўца сцвердзіў, што асноўнай справай з'яўляецца згуртаванне ўсіх сіл і сродкаў да паслядоўнага ажыццяўлення праграмы, вызначанай на VIII пленуме ЦК ПАРП.

У другі дзень была таксама прынята праграма дзейнасці беластоцкай партыйнай арганізацыі на 1971—1972 гады. Яна вызначае заданні інстанцый і арганізацый ПАРП ва ўсебаковым развіцці Беласточчыны. Асаблівы націск кладзецца ў ёй на развіццё сельскай гаспадаркі.

На заканчэнне адбыліся выбары. Да ўлад ваяводскай партыйнай арганізацыі выбрана 108 членаў і намеснікаў членаў ВК, а таксама 17-асабовую Рэвізійную камісію і 25-асабовую Камісію партыйнага кантролю. У складзе нована выбранага ВК 28 рабочых і 18 сялян.

На першым пленарным пасяджэнні новага ВК I сакратаром выбраны ізноў А. Лашэвіч. Сакратарамі ВК выбраны: С. Кудла, В. Мікульскі, А. Младзяноўскі і С. Рубчэўскі, якія дагэтуль выконвалі гэтыя функцыі.

Старшынёй Ваяводскай рэвізійнай камісіі выбраны Ю. Родзік, а старшынёй Ваяводскай камісіі партыйнага кантролю — М. Кірылюк.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela, 11 kwietnia**

8.50 Program dnia. 8.55 „Przypominamy, radzimy". 9.10 „Brylantowa ręka" — film fab. radz. 10.45 Gra orkiestra TV Katowice pod dyr. J. Wikarka. 11.15 „Człowiek z plastikowej zbroi" — film TVP („Wakacje z duchami"). 11.45 „Pionierzy podziemnego frontu" — rep. 12.20 Poranek muzyki kameralnej. 13.05 „Przemiany". 13.35 Dla dzieci: „Psy to psy, a koty — koty". 14.10 Dla młodych widzów: „Ewa + Ewa" — film TVP. 14.45 „Dama z Monmartre" — recital Marty Stenbickiej. 15.20 Studio 63: A. Mickiewicz — „Pan Tadeusz" księga VI „Zaścianek". 16.05 „Porwany za młodu" — film fab. NRD. 17.50 „Tele-Echo". 18.40 „Sopot 70" — film TVP. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Klan Hayesów" — film fab. ameryk. 21.20 PKF. 21.30 Magazyn sportowy. 21.55 „Runda" — II odc. Scenariusz J. Gruza i J. Fedorowicz. 23.15 „Na dobranoc" — film TVP.

**Poniedziałek, 12 kwietnia**

9.15 Program dnia. 9.30 Dla młodych widzów: „Język zwierząt" — film dok. 10.25 „Żywot polskich artystów" — Aleksander Kucharski („Szlakami zabytków"). 11.00 „Nic nowego pod słońcem" („W starym kinie"). 12.00 Mecz półfinałowy o Puchar Polski w piłce nożnej „Ruch" — „Górnik". W przerwie ok. 12.45 Dziennik. 13.45 Dla dzieci: J. Ośnica — „Baśniowy las". 14.45 „Muzyczna Corrida" — program rozrywkowy. 15.45 Reportaż. 16.15 „Kwiaty, drzewa, ptaki, ludzie". 17.00 „Muzyka taneczna". 17.45 „Wieczna Ewa" — film fab. USA. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.05 Teatr TV: W. Szekspir — „Poskromienie złośnicy". 21.30 Magazyn sportowy. 21.50 „Uroki grafomanii".

**Wtorek, 13 kwietnia**

9.00 „Teleferie": 1. „Nasz sposób na śrubki", 2. „Bella i Sebastian" — film. 10.15 „Słuchajcie bicia dzwonów" — film fab. jug. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wiosenne prace na łąkach i pastwiskach". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. IV „Wyprawa w obronie ziemi". 17.40 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Słuchajcie bicia dzwonów" — film fab. jug. 21.35 „Śpiewa Franco Corelli". 22.05 „Kontakty". 22.35 Dziennik.

**Środa, 14 kwietnia**

9.00 „Teleferie": 1. „Nasz sposób na śrubki", 2. „Bella i Sebastian" — film. 10.15 „Krupp i Krause" — film fab. NRD odc. I. 12.45 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. V. „Ta wieś nazywa się Płowce". 17.30 PKF. 17.40 Magazyn ITP. 17.55 „Port Północny" („Morskie spotkania"). 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Za kierownicą". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Krupp i Krause" — film fab. NRD odc. I. 20.55 „Światowid". 21.25 „Minstrel show" — program rozr. 22.10 Dziennik.

**Czwartek, 15 kwietnia**

9.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Państwo Mieszka I i Bolesława Chrobrego". 10.55 Dla szkół: (kl. I—IV lic.) Język polski — „Poezja manifestu artystycznego". 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Nowe maszyny rolnicze" cz. I i II. 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem" — „Wakacje z duchami" — film. 17.45 „Autor i jego piosenki" — Jerzy Ficowski. 18.25 TV Kurier Białostocki. 18.40 „Zdrowie i praca". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pożegnanie z brygadą" — film TVP. 20.55 „Starzy przyjaciele" — film wg opowiadania E. Wallace'a. 21.35 „Kobieta" i „Suknia" — I program („Wieczór z Pantomimą"). 22.15 „Lektury współczesne". 22.25 Dziennik.

**Piątek, 16 kwietnia**

10.00 „Starzy przyjaciele" — film wg opowiadania E. Wallace'a. 12.45 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Przysposobienie obronne — „Pierwsza pomoc". 14.50 Fizyka dla nauczycieli: „Struktura dydaktyczna działu „Elementy fizyki ciała stałego". 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.15 „Wydawnictwa proponują". 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Draka" — nowela film. TVP. 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr Telewizji na świecie: „Rozłąka". 22.30 Dziennik.

**Sobota, 17 kwietnia**

8.15 „Smak miodu" — film fab. ang. 9.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Krajobraz stepowy". 10.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Ochrona biosfery". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ptaki". 15.15 Program dnia. 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Informacja dla służby rolnej". 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: XVII Trójmecz harcerski. 17.45 Sprawozdanie z przedolimpijskiego turnieju w judo. 18.20 „Spotkania z przyrodą". 18.45 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Kino Interesujących Filmów: „Smak miodu" — film fab. ang. 21.20 Dziennik TV i wiadomości sportowe. 22.20 „Podróże z happy-endem". 23.20 Nowela filmowa.

**1.IV.1971 г. памёр на 75-ым годзе жыцця заслужаны педагог і арганізатар беларускага школьніцтва на Беласточчыне, былы дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску**

**ЯРАСЛАЎ КАСТЫЦЭВІЧ**

**Выказваем шчыры жаль і глыбокае спачуванне сям'і нябожчыка**

**Прэзідыум ГП БГКТ**
**Бельскі аддзел БГКТ**
**Рэдакцыя «Нівы»**

Журналісцкія размовы найлепш пачынаць ад солтыса. Гаспадар вёскі найчасцей ведае аб усім, што ў вёсцы дзеецца. Солтыс вёскі Трасцянка вельмі ўцешыўся, калі я ўвайшоў у яго хату. Хоча расказаць журналісту аб многіх справах сваёй вёскі. Перш за ўсё, аднак, расказаць хоча аб трасцянскіх жанчынах.

— Пахваліце нашых жанчын з гуртка вясковых гаспадынь. Добра пахваліце!

Трасцянскія жанчыны сапраўды на пахвалу такую заслужылі. Арганізавалі яны ні менш ні больш, толькі мастацкі аматарскі калектыў. Нібы нічога асаблівага, а ў вёсцы радасць на ўсю зіму. Бо ўявіце сабе на сцэне старых жанчын, па шэсцьдзесят і больш гадоў, у доўгіх традыцыйных саянах, у народных уборах, танцуючых карагодныя танцы, або інсцэнізуючых вядомую народную песню: «Баба Ксюта, дзед Тамаш...» Аматарскі гурток старэйшых жанчын цешыць гледачоў нават больш, чымсьці гурток моладзі.

Пасля выступлення трасцянскіх жанчын у вёсцы зашумелі. Былі і такія, што гаварылі: — Бачыш, нават старыя бабы на сцэну павылазілі... Толькі таго і не хапала...




Але большасці жыхароў Трасцянкі адвага і мастацкія здольнасці вясковых жанчын вельмі спадабаліся. Ёсць надзея, што выступленні гуртка не кончацца на адным сёлетнім сезоне, што жанчыны і ў наступных гадах будуць прадаўжаць сваю мастацкую дзейнасць. Выпаўняюць яны гэтым самым пустое месца ў жыцці Трасцянкі. Месца, якое ў нармальных умовах займае моладзь. Але ў Трасцянцы амаль няма моладзі. Усе маладыя людзі даязджаюць да Беластока — у школу або на работу. Вёска ажывае маладзёжным гоманам улетку, калі пачнуцца канікулы школьнікаў ды водпускі рабочых.

Солтыса цікавяць і хвалююць справы вясковай культуры, але не толькі гэтыя справы. Хвалюе яго шмат іншых спраў. Вось хаця б угнаенні. У папярэдніх гадах план куплі штучных угнаенняў быў выкананы толькі ў 30—40%. Зараз план гэты выконваецца ў поўных 100%.

Прычына? Вельмі простая. Раней трэба было ездзіць за штучнымі ўгнаеннямі далёка, у Нараў, зараз прадаюцца яны пад бокам у самой Трасцянцы. Можна гэта было зрабіць дзякуючы таму, што сельскагаспадарчы гурток абсталяваў магазін, у якім размешчаны штучныя ўгнаенні. На магазін гэты перабудаваны памяшканні старой цагельні, ліквідаванай некалькі гадоў таму назад. У сувязі з павышэннем выкарыстання ўгнаенняў, пабольшылася таксама кантрактацыя збожжавых культур.

У Трасцянцы што некалькі гадоў прыбывае новы, прыгожы будынак для грамадскага выкарыстання. Пабудавана тут прыгожая школа, потым памяшканне грамадскай рады, крама, нядаўна аддадзена да выкарыстання новая святліца і пажарная раміза. Нягледзячы на гэта, не ўсе патрэбы Трасцянкі поўнасцю забяспечаны. Настаўнікі трасцянскай школы з даўных-даўна робяць заходы, каб улады дапамаглі ім пабудаваць жыллёвыя памяшканні. Ёсць нават для гэтага ўмовы, на школьным пляцу стаіць велізарны будынак старой школы. Будынак зараз амаль зусім пусты, хапіла б правесці адпаведны рамонт і настаўнікі не патрабавалі б шукаць сабе кватэр у гаспадароў.

Выйшаўшы на трасцянскую вуліцу, сустракаю выпадкова загадчыка мясцовай пачатковай школы, сябру Янку Тапалянскага. Разгаварыліся мы аб трасцянскіх справах. Дзялюся з ім сваімі аптымістычнымі назіраннямі.

— Гэта праўда, — згаджаецца са мною сябра Тапалянскі. — Бяда аднак у тым, што вёска наша пусташэе. Няма ў ёй амаль зусім моладзі. Гляньце на гэты рад хат, пачынаючы ад царквы. Ні ў адной з іх няма ўжо гаспадара...

І сябра Тапалянскі зрабіў доўгі пералік некалькіх дзесяткаў трасцянскіх хат, у якіх засталіся толькі дажываючыя свой век дзядулі, або не засталося ўжо нікога.

*Ул. Паўлючук*

# ПРА БАГАЦЦЕ НАРОДНАЙ МОВЫ

У мінулым годзе выйшла з друку ў Мінску праца П. У. Сцяцко «Народная лексіка»[1]). У ёй беларускі лінгвіст апублікаваў сваё навуковае даследаванне назваў яды, пітва, адзення, самаробных тканін, пасцельных прыладаў, сталовай бялізны і абутку Зельвеншчыны. Праца заснавана на багатым моўным матэрыяле, які сабраў сам аўтар у гадах 1950—1960 ад насельніцтва рознага ўзросту, карыстаючыся пры гэтым вельмі дакладнай арыентацыяй у мясцовасці, бо сам паходзіць з Зельвеншчыны. Кожная народная назва атрымала ў працы даволі абшырны слоўнікавы артыкул, у якім аўтар прыводзіць яе сучаснае ўжыванне, параўноўвае з іншымі славянскімі і неславянскімі мовамі, выказвае свае ўласныя меркаванні пра яе паходжанне. Для прыкладу, запрапануем адзін з такіх артыкулаў:

«Кужаль м. Палатно вышэйшага гатунку — з чэсанага лёну. *С кужалю як што найлепшо шыюць.* Св.

Акрамя тканіны, слова *кужаль* абазначае і сам чэсаны лён, і пражу з яго. Гр., Зл., Кр.

— Руск. (дыял.) *кужель* (КЯОС, 98), укр. *кужіль*, польск. *kużel*, чэшск. *kužel*, балг. *къжел*.

А. Праабражэнскі адносіць *кужаль* да таго кораня, што і *кудзеля* (ЭСРЯ, I, 405).

У старабеларускай мове *кужаль* ужывалася са значэннем 'льняное палатно' (Гарбачэўскі. Слоўнік, стар. 189). Адсюль яно трапіла, відаць, у польскую мову: Карловіч разглядае слова *кужаль* у польскай мове як запазычанне з беларускай ці ўкраінскай моў. (Карл., II, 653).

Спарадычна сустракаецца ў гаворках і састаўная назва — кужэльнае палатно (*кужолно палатно*), відаць з мэтай пазбегнуць многазначнасці слова *кужаль*. *Кужолнага палатна пазыч, я сваё вытку, то аддам.* Гр.»[2])

У працы разгледжана каля пяцісот назваў. Пры гэтым аўтар не робіць паспешлівых вывадаў аб радаводзе назваў, паходжанне якіх можа выклікаць сумненне або розніцу ў талкаваннях. У многіх выпадках П. У. Сцяцко, спаслаўшыся на меркаванні вядомых рускіх, польскіх, нямецкіх, беларускіх і літоўскіх этымолагаў і, калі яны розняцца паміж сабой, пакідае пытанне адкрытым і такім чынам заахвочвае вучоных да далейшых пошукаў. Такая асцярожнасць у падыходзе да семантыкі народных назваў сведчыць на карысць аўтара.

П. У. Сцяцко ў сваёй працы выкарыстаў значную колькасць апублікаваных і неапублікаваных крыніц і прац, у тым ліку і такія, якія да гэтага часу рэдка траплялі ў навуковы зварот, напрыклад, рукапіс беларускага слоўніка С. Мядзведскага. Можна толькі пашкадаваць, што аўтар не выкарыстаў матэрыялаў па М. Федароўскім, якія знаходзяцца ў архіве бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, і картатэкі кабінета беларускай філалогіі Польскай Акадэміі навук, што ўжо на працягу 15 год з піетызмам збіраецца пад наглядам праф. др А. Абрэмбскай-Яблонскай. Ад гэтага праца П. У. Сцяцко значна выйграла б на паглыбленні і пашырэнні навуковых абагульненняў.

Для тых лінгвістаў, якія займаюцца беларускай дыялекталогіяй, асабліва ж хто з іх цікавіцца беларускімі гаворкамі Беласточчыны, праца П. У. Сцяцко прадстаўляе вялікую вартасць. Зельвеншчына, як вядома, знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці з усходнімі граніцамі Народнай Польшчы. Беларускія гаворкі Беласточчыны даволі блізкія сваім слоўнікавым і фанетычным складам да гаворкі Зельвеншчыны. Гэта відаць з матэрыялаў, прыведзеных у працы др Э. Смулковай, прысвечанай вывучэнню сельскагаспадарчай лексікі Беласточчыны.[3])

Праца П. У. Сцяцко сапраўды з'яўляецца доказам слушнасці заўвагі Якуба Коласа, які пісаў: «Мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе».

*мгр Мікалай Гайдук*

[1]) *Сцяцко П. У., Народная лексіка, Мінск, 1970, старонак 174.*

[2]) *Там жа, стар. 131.*

[3]) *Smułkowa E., Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim, Wrocław—Warszawa—Kraków 1968.*

КОНКУРС ТОЛЬКІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ

# БУКЕТ АГАРОДНІНЫ

Галоўнае праўленне ЗМВ і рэдакцыя маладзёжнага тыднёвіка «Зажэве» аб'явіла ў сакавіку конкурс для дзяўчат пад лозунгам «Букет агародніны». Задача конкурсу — весці агародчык з агароднінай на паверхні не менш 1 ара. У агародчыку трэба завесці і вырошчваць найменш 10 сартоў агародніны, а перш за ўсё малараспаўсюджанай, як калярэпа, бракулы, бруксэлька, чырвоная капуста, калафёры, шпінак, ярмуж, кажанэра, сальсэф'я, папрыка, цыкорыя, хрэн, салата, радыска, сэлеры і г.д. Конкурсны агародчык трэба належна даглядаць і дбаць аб яго эстэтычным вонкавым выглядзе. Па краях агародчыка можна, напрыклад, пасадзіць кветкі. Многа практычных цырад на тэму, як весці конкурсны агародчык, можна будзе знайсці на старонках «Зажэвя».

Другая задача конкурсу — навучыцца рабіць з агародніны салаткі і сокі, а таксама навучыцца кансерваваць агародніну ў слоіках. Патрэбныя веды ў гэтай галіне можна здабыць на курсах, якія арганізуюць гурткі вясковых гаспадынь (КГВ) або пункты «Сучаснай гаспадыні», а таксама з кніжак і часопісаў.

Дзяўчаты, якія захочуць удзельнічаць у конкурсе, павінны звярнуцца ў гэтай справе ў павятовыя праўленні ЗМВ, дзе атрымаюць і парады і дзённікі для запісаў усіх выкананых у агародчыку работ.

Насенне той ці іншай агародніны можна купіць у краме або заказаць у высылковай краме ў Варшаве, вул. Акаповая 26/30.

Конкурс працягваецца ад красавіка да кастрычніка г.г. За найлепшыя «букеты агародніны» чакаюць узнагароды на агульную суму 100 тысяч злотых. Між іншым, фруктовыя дрэўцы, прылады да працы ў агародзе і ў хаце, сокавіроўкі, а таксама ашчадныя кніжачкі з грашовымі ўкладамі і г.д. (яц)

# СЕЗОН РАСПАЧАЎСЯ

Беларускі рэгіянальны музей у Белавежы ўжо ў пачатку красавіка пачаў абслугоўваць турыстаў. Музей адкрыты штодзённа ад 8-ай да 15-ай гадзіны (апрача панядзелкаў і паслясвяточных дзён). Музей з году ў год карыстаецца ўсё большай папулярнасцю сярод турыстаў. Прыцягваюць іх цікавыя і разнастайныя экспанаты, якія паказваюць усе найважнейшыя аддзелы народнай культуры беларускай меншасці ў Польшчы.



*Белавежа. Паркінг экскурсійных аўтобусаў.*

Вялікія заслугі ў павелічэнні колькасці наведвальнікаў беларускага музея мае работнік ПТТК Андрэй Дацкевіч са сваімі супрацоўнікамі. У мінулым годзе яны моцна папрацавалі над папулярызацыяй сярод турыстаў нашага музея. Па ініцыятыве Андрэя Дацкевіча ў 1970 г. было наладжана сціслае супрацоўніцтва паміж беларускім музеем і ПТТК у Белавежы. Было падпісана пагадненне паміж ГП БГКТ і гайнаўскім аддзелам ПТТК з мэтай аб'яднаць намаганні ў папулярызацыі нашага музея.

Да гэтага часу вышэй спамянутае пагадненне ўводзілася ў жыццё надзвычай удана. У 1970 годзе музей наведала на 250% турыстаў больш, чым у папярэдніх гадах, калі не існавала цеснае супрацоўніцтва паміж музеем і ПТТК. Андрэй Дацкевіч і яго супрацоўнікі пастараліся паказаць беларускі музей кожнай экскурсіі. А трэба сказаць, што



*Белавежа. Дубы ў Палацовым парку.*

экскурсіі часта маюць вельмі абмежаваную колькасць часу, прызначанага на знаёмства з Белавежай. На працягу 2—3 гадзін вельмі цяжка агледзець хаця б з большага 2 музеі, Палацовы парк, запаведнік зуброў, Нацыянальны парк. Экскурсавод, такім чынам, вымушан рабіць селекцыю аб'ектаў, і беларускі музей, які знаходзіцца, на жаль, далекавата ад турыстычнага шляху ў Белавежы, найчасцей абмінаўся. У такіх абставінах, зразумела, шмат залежыць ад умелай прапаганды. Такая прапаганда, несумненна, мела месца з боку Андрэя Дацкевіча, паколькі часта экскурсіі, якія ён абслугоўваў, спецыяльна працягвалі сваё прабыванне, каб агледзець экспанаты беларускага музея.

У гэтым сезоне, абапіраючыся на мінулагодні вопыт, плануецца ўдасканаліць рэкламу нашага музея. Мы спадзяемся, што ў выніку шчырага зацікаўлення ПТТК нашымі справамі ў гэтым годзе колькасць наведвальнікаў нашага музея яшчэ больш узрасце. Дык шчырае дзякуй і А. Дацкевічу і ўсім супрацоўнікам ПТТК у Белавежы за дапамогу і карыснае для абодвух бакоў супрацоўніцтва.

*Уладзімір Гацута,*
*кіраўнік беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы*
*Фота Я. Цялушэцкі*



*Белавежа. Гасцініца «Іва.*

 

Пачатак на стар. 1




Оля Парфенюк атрымала таксама спецыяльную ўзнагароду «Зоркі» — за найлепшае выкананне песні сярод малодшых удзельнікаў.

Спадабалася таксама ўсім Ганя Амельянюк з Грэдалёў Бельскага павета за вельмі каларытную інтэрпрэтацыю беларускай народнай песні «Дзед і баба». Добрай інтэрпрэтацыяй адрознівалася і Аля Галімская з Сямяціцкага павета.

За найлепшы дуэт сярод падставовых школ першае месца прызнана Лідзе Манаховіч і Марысі Абрамюк з Бельска.

Наогул конкурс гэты можна было б назваць амаль дзявочым. Адзінымі прадстаўнікамі мужчынскага полу былі ўжо вышэй названы Юрка Харкевіч з Гайнаўкі ды трыё малайцоў з Гайнаўскага павета, якія адважыліся пераламаць фемінізм конкурсу. Хлопцы з трыё наогул вельмі добра спяваюць, сапраўды, як у трыё належыцца, на тры галасы. Але выступленне на гэтым конкурсе ім не ўдалося. Спявалі без акампаніяменту і таму пачалі ў рознай танацыі. Потым папраўіліся, але агульны эфект быў папсаваны няўданым пачаткам. Журы прызнала ім трэцяе месца. Першае — заваявалі дзяўчаты з Гайнаўскага павета, другое — з Сямяціцкага.

Квартэты наогул усе спявалі нядрэнна. Адчуваецца, што наша моладзь любіць групавы спеў і ахвотна спявае ў штодзённым жыцці. Даволі шырока квартэты выкарысталі фальклорныя песні, ды і інтэрпрэтацыя іх была цікавая. Першае месца заняў дзявочы квартэт з бельскага ліцэя, а з падставовых школ — квартэт з Чарэмхі. Другое — квартэт з гайнаўскага ліцэя, а сярод падставовых школ — з Кленік.

Некалькі разоў са сцэны гучала песня «Беласточчына» на словы нашага паэта Віктара Шведа.

Але, на жаль, трэба прызнаць, што рэпертуар, прадстаўлены на конкурсе, быў абмежаваны невялікай колькасцю беларускіх песень. Па некалькі разоў паўтараліся многія песні, а асабліва часта — несмяротныя «Зорка Венера», «Лясная песня», «Там, дзе Нёман плыве». У наступных конкурсах добра было б падумаць аб навейшых песнях, лепш падбіраць песні да ўзросту ўдзельнікаў і асаблівую ўвагу звярнуць на апрацоўку фальклору роднай вёскі. Бачу ў гэтым вялікую і нязмерна важную ролю вясковага настаўніка як ініцыятара і памочніка будучых удзельнікаў.

Наогул, конкурс пакінуў у удзельнікаў прыемныя ўспамін і пэўны вопыт для наступных спаборніцтваў.

*Я. Чэрнякевіч*



*Фрагмент глядзельнай залы.* *Фота Цаф — Сянько*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ужо некалькі год я працую на фабрыцы ў Беластоку. На вёсцы засталася па бацьку гаспадарка, на якой жыве старая маці. Маці не аплочвае падаткаў, бо гаспадарка заняпаўшая. Брат мой жыве на вёсцы, але мае ўласную гаспадарку. Нядаўна скарбовы каморнік заняў за залеглыя падаткі маю зарплату. Не маю і не хачу мець нічога супольнага з гаспадаркай. Што мне рабіць, каб не плаціць за яе падаткі?

АДКАЗ: Перш за ўсё трэба ўпарадкаваць права ўласнасці гаспадаркі. З гэтай мэтай трэба выступіць у суд з просьбай сцвердзіць набыццё спадчыны па вашым бацьку. Наследнікамі па бацьку з'яўляецца матка, вы і ваш брат. Аднак гаспадарку можа атрымаць у спадчыне толькі той, хто на ёй працаваў прынамсі год перад смерцю бацькі, або мае іншую гаспадарку. Калі б гэтых умоў вы не спаўнялі, то суд сцвердзіць, што спадчынныя правы захавалі матка і брат. На аснове гэткага рашэння суда вас мусілі б звольніць ад абавязку заплаты падаткаў.

Пачатак на стар. 1

## Людское сумленне да працы

Размовы паказваюць, што гэтае пакаленне ахвотна застанецца на вёсцы.

— У вас штатная функцыя кіраўніка школы. А пазашкольныя функцыі?

— Іх 13. Не буду пералічваць, бо многа месца зойме.

— Ці можа мець столькі абавязкаў адзін чалавек?

— А што зробіце, калі вам скажуць: вы возьмецеся і зробіце! І чалавек робіць, бо мае сумленне, каб абавязкі выканаць да канца.

— Вы маеце вопыт доўгагадовага вясковага настаўніка і 15-цігадовага дзеяча БГКТ. Як ацэньваеце прыдатнасць таварыства на вёсцы?

— На хуткую руку мне цяжка на гэта адказаць. Але напэўна кожны прызнае, што Беларускае таварыства трапляе ў вёску, знаходзіць сюды дарогу.

— А што аб актыве таварыства?

— Я толькі ведаю адно, што праца пойдзе добра тады, як будзем бачыць выразна мэту. А мэта тая — выдабываць і ахоўваць рэгіянальныя традыцыі і народную беларускую культуру. Трэба, каб таварыства да канца выпрацавала галоўны напрамак сваёй дзейнасці.

— Які?

— Праца грамадска-культурная ў розных багатых формах, культурна-асветная і выхаваўчая — сустрэчы, даклады, гутаркі, выдавецкія справы.

— А ваш драмгурток у вёсцы?

— Заснуў. Сітуацыя такая ў нас, што можна было б працаваць цяпер жанатым і замужнім. Але ўвайшло ў прывычку, што жанатаму не трэба працаваць. Каб узяў усіх тых жанатых і падаў у «Ніву» аб тым, што могуць, а не хочуць працаваць! Ім як бы сорамна, што нібы жанаты і пойдзе іграць у п'есе. А я чаму іграў?

— То вы чалавек сучасны, а іншыя — старамодныя, а можа лянівыя?

— А хто іх ведае! Гавораць жа ізноў, што дурнога работа любіць!

*Запісала Вера Леўчук*
*фота Цаф — Сянько*




У наступным годзе сямяціцкі ПЗГС будзе адзначаць сваё дваццацігоддзе. Аднак самастойную дзейнасць ПЗГС тут распачаў з пачаткам 1953 года. Вядома, у такіх выпадках усё трэба пачынаць, і таму адразу было даволі цяжка. Цяпер клопатаў таксама хапае, але аб гэтым праз момант. Зараз ПЗГС у Сямяцічах налічвае 8 ГС-аў, адну спулдзельню будаўніцтва і вясковых паслуг і дзве спулдзельні здароўя.

Што ж агульна можна сказаць пра гэты тып спулдзельчасці ў Сямяціцкім? Можа, праца спулдзельні і не адрозніваецца ад іншых ПЗГС-аў, але адно напэўна вылучае, што сямяціцкія спулдзельні з'яўляюцца аднымі з найлепшых у ваяводстве па выкананню гаспадарчых заданняў. Доказам хай будуць даныя аб выкананні апошняй пяцігодкі. У скупцы і кантрактацыі, нягледзячы на неўраджайныя гады ў сельскай гаспадарцы, тавараабарот у 1970 годзе склаў 310.720 тысяч зл., гэта абазначае яго павышэнне ў параўнанні з 1965 годам на 45,4 працэнта. Падобна меліся справы ў оптавым гандлі, дзе тавараабарот мінулага года склаў 190.847 тысяч зл., што абазначае ўзрост амаль на 40 працэнтаў у параўнанні з 1965 годам, або тавараабарот у рознічным гандлі, які ў 1970 годзе склаў 381.591 тысячу зл., а гэта абазначае ўзрост ў параўнанні з 1965 годам амаль на 60 працэнтаў.

Аднак асабліва цешыць той факт, што значна пашырана ўласная вытворчасць. Прадукцыя хлеба павялічылася за перыяд пяцігодкі на 46 працэнтаў, а яшчэ больш, бо аж на 60,2 працэнта павялічылася прадукцыя каўбасных вырабаў.

Супастаўляючы эканамічныя вынікі сямяціцкіх спулдзельняў з іх інвестыцыйнай дзейнасцю, бачым велізарныя разыходжанні. Прасцей гаворачы, тут вельмі мала памяшканняў на склады, малая механізацыя і інш. Усё гэта называецца трывалымі сродкамі. І калі ўзяць пад увагу прапорцыю паміж вартасцю т. зв. трывалых сродкаў і тавараабаротам, дык бачым тут вялікі кантраст. Паказчык гэты на многа меншы ад сярэдняга ваяводскага. У гэтай галіне Сямяціцкі павет знаходзіцца на перадапошнім, 15-тым месцы ў ваяводстве.

З гэтага просты вывад, што патрэбы ПЗГС, а таксама і паасобных ГС-аў у галіне інвестыцый вялікія. Інвестыцыйныя прапановы ПЗГС на гады 1971—75, якія прадбачваюць урэгуляванне першапланавых патрэб — 75 мільёнаў зл. ВЗГС паводле сваіх планаў прадбачвае толькі 27 мільёнаў зл. Лёгка падлічыць, што ў гэткай сітуацыі спулдзельні Сямяціцкага павета не дасягнуць сярэдняй ваяводскай у галіне трывалых сродкаў, а што за гэтым ідзе і не забяспечаць першапланавых пільных патрэб. А трэба ж лічыцца з фактам, што сельскагаспадарчая прадукцыя павялічыцца, а таксама павялічыцца і запатрабаванне на артыкулы, неабходныя для яе развіцця.

Сітуацыя напэўна нялёгкая. Як кажуць, «з пустога і Саламон не нальє». ВЗГС таксама дае столькі, колькі можа даць, але здаецца, што варта падумаць яшчэ раз аб падзеле інвестыцыйных лімітаў. У гэтым падзеле трэба ўзяць пад увагу ліквідацыю гэтых дыспрапорцый. З другога боку, сямяціцкія спулдзельні павінны зрабіць свае прапановы адносна выкарыстання сваіх мясцовых магчымасцей у вырашэнні гэтай нялёгкай справы. Чакаем!

*А. Лабановіч*




# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

### СТАРАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў ПОЛЬСКІХ АЦЭНКАХ. ЧАСТКА III

Абапіраючыся на вопыт дасягненняў з перыяду сярэдневякоўя, XVII, XVIII і XIX ст. ст., польскія вучоныя XX ст. паглыблялі вывучэнне «Повесці врэменных лет». Характэрна, што вучоныя гэтыя перасталі прыпісваць аўтарства «Повесці» Нестару. Праўда, яшчэ не раз у польскай навуцы прозвішча Нестара паяўлялася, але амаль заўсёды побач яго была агаворка «так званы», або і прозвішча летапісца пісалася ў двукоссі. Большасць вучоных падкрэслівала, што аўтар «Повесці» застаецца невысветленым.

Адзін з польскіх даследчыкаў Тадэвуш Вайцехоўскі — аўтар Szkiców historycznych XI wieku (1901) звяртаў увагу на вялікае значэнне «Повесці» як крыніцы звестак аб супольных паходах польскіх і рускіх князёў супраць Сілезіі і супраць чэхаў.

Некаторыя польскія вучоныя XX ст. уступалі ў палеміку з рускімі і ўкраінскімі даследчыкамі адносна этнічнага генезіса так зв. Чырвоных гарадзішчаў і плямён радзімічаў і вяцічаў. Вучоныя гэтыя стараліся давесці, што першабытнае насельніцтва Чырвоных гарадзішчаў так сама, як вяцічы і радзімічы, было польскім этнічным элементам. Некаторыя з гэтых прац былі напісаны ў часе I сусветнай вайны, з якой, як вядома, палякі звязвалі нацыянальна-вызваленчыя надзеі. Нічога тады дзіўнага, што ў працах гэтага часу магла паявіцца пэўная тэндэнцыйнасць і суб'ектывізм у ацэнцы далёкага мінулага.

У колах польскіх вучоных паявілася значная колькасць публікацый, якія аспрэчвалі некаторыя тэорыі выдатнага рускага вучонага Аляксея Шахматава, які выказаў многа арыгінальных думак аб «Повесці».

Найбольш сур'ёзным польскім даследчыкам «Повесці» быў, несумненна, Аляксандр Брукнэр, які не раз уступаў у палеміку з Шахматавым. Брукнэр вельмі высока ацэньваў гістарычную вартасць «Повесці» і падкрэсліваў, што рускі летапісец стаяў на многа вышэй, чым польскі летапісец Галь, які, паводле даследчыка, будучы французам мала клапаціўся аб мінулым Польшчы і толькі складаў панегірык сучасным князям і вяльможам. Рускі летапісец, хаця быў чалавекам простым і сціплым, то ўсё ж такі з надзвычайнай саліднасцю, праўдамоўнасцю, шчырасцю і адданасцю адносіўся да мінулага сваёй краіны. Вельмі высока ацэньваў Брукнэр патрыятызм рускага летапісца. Патрыятызм гэты праявіўся, між іншым, у пахвале тых рускіх князёў, якія былі язычнікамі, але дбалі пра аўтарытэт і сілу рускай дзяржавы. Падабалася Брукнэру і тое, што аўтар уплёў у «Повесць» народныя легенды, прыказкі, прымаўкі, акты і дагаворы. Паводле Брукнэра, «Повесць» была найлепшым летапісам сярод летапісаў усіх славянскіх народаў. Польскі даследчык не адносіўся аднак да «Повесці» бескрытычна. Аспрэчваў ён гістарычную верагоднасць многіх яе эпізодаў, якія залічваў да выдумак і містыфікацыі. Да выдумак перш за ўсё адносіў Брукнэр паданне аб заснаванні Кіева, якое ў перакананні вучонага не мела нічога супольнага з гістарычнымі фактамі. Пры гэтым Брукнэр падтрымліваў адкінутае многімі рускімі вучонымі сцверджанне «Повесці» аб скандынаўскім паходжанні рускіх князёў і скандынаўскім паходжанні назвы «Русь». Брукнэр аднак адкідаў тэорыі нямецкіх вучоных аб тым, што нарманскія князі, прыбыўшы ў Русь, не паддаваліся асіміляцыі і на працягу некалькіх стагоддзяў заставаліся ў сваёй свядомасці нарманамі. Даследчык даказваў, што князі гэтыя ў сэнсе этнічным, моўным, палітычным і патрыятычным цалкам зліліся з мясцовай рускай стыхіяй.

У некаторых сваіх працах Брукнэр уваходзіў у вострую палеміку з Шахматавым. Пазнейшыя даследаванні далі канчаткова, што ў некаторых выпадках меў рацыю польскі даследчык, у іншых — гэтая рацыя засталася на баку Шахматава.

Так ці інакш, няма сумненняў, што А. Брукнэр быў найбольш сур'ёзным польскім даследчыкам «Повесці врэменных лет». Гэтае сцверджанне адносіцца перш за ўсё да высокай якасці яго прац, але і колькасць іх не можа не імпанаваць чытачу. Вось некаторыя з іх:

„Próbki najnowszej krytyki historycznej" (1905), „Historia literatury rosyjskiej (1922), „Zarys dziejów literatur słowiańskich" (1929), „Dzieje kultury polskiej" (1930).

Адну з прац, прысвечаных «Повесці», апублікаваў Брукнэр на Украіне (1925). Апрача гэтага, перадрукаваў ён у Польшчы некаторыя з эпізодаў «Повесці».

Аб «Повесці врэменных лет» пісалі ў XX ст. і іншыя польскія вучоныя, аднак іх працы не мелі такой глыбіні і аб'ёму, як працы Брукнэра.



 



# У Ласінцы і ў ваколіцы

Аб справах Ласінкі і навакольных вёсак на Гайнаўшчыне праінфармавалі мяне старшыня ГРН у Ласінцы тав. Шымон Паўлоўскі і сакратар грамадскага камітэта ПАРП тав. Сцяпан Каролька.

Прыемна было пачуць пахвальныя словы

ПРА КЛУБ «РУХУ» Ў ЛАСІНЦЫ.

Мае субяседнікі згодна сцвярджалі, што з тае пары, калі пачаў працаваць у клубе Валодзя Мінько, дзейнасць яго значна паправілася. У клубе паявіліся актуальныя сценгазеты, часцей пачала сюды прыходзіць моладзь, бо ў клубе можна паслухаць сучасныя мелодыі з грампласцінак, пагуляць у шашкі або шахматы, паспяваць, а нават патанцаваць. Валодзя Мінько ўмее іграць на акардэоне, ён гарманіст. А ў клубе быў акардэон. Дык у ласінскім клубе пачалі адбывацца танцавальныя вечарыны і іншыя культурныя мерапрыемствы.

Даведаўся я таксама аб тым, што

ЖАНЧЫНЫ Ў ЛАСІНЦЫ АКТЫЎНЫЯ.

Арганізуюць яны розныя курсы, удзельнічаюць у конкурсах для вясковых гаспадынь і г.д. Дапамагае ім мясцовы сельскагаспадарчы гурток. У апошні час закупіў ён жанчынам мяндляркі для апрацоўкі ільну і інспектавыя шыбы. У інспектах жанчыны будуць вырошчваць ужо з самай ранняй вясны радыску, салату, цыбулю, капусту і флянцы памідораў. Апрача таго, штогод вясною ласінскія жанчыны купляюць шмат куранят і гадуюць іх.

Грамада Ласінка вядомая ў павеце сваімі

ГРАМАДСКІМІ ЧЫНАМІ І ПАБУДОВАЙ ДАРОГ.

У апошнія гады пабудаваны і адрамантаваны тут дарогі на адрэзках: Курашава—Камень (0,6 км), Камень—Тынявічы (0,8 км), Кутава—Крывец (0,5 км) і Кутава—Ласінка (1 км). Зараз ідзе будова дарогі ад шашы Гайнаўка—Нараў да Гарадзіска і да Прыбудак. Паабапал дарог пасаджана 2000 дрэўцаў. Пры пабудове дарог грамадскіх чынаў выканана на суму 1.600.000 злотых. Апрача таго, ГРН у Ласінцы многа ўвагі прысвячае рамонту школ і будове прышкольных агароджаў. І так, адрамантавана школа ў Ласінцы і адна зала ў Крыўцы. Новыя агароджы пабудаваны пры школах ў Барысаўцы, Камені і Рэпісках. У далейшым грамадскія ўлады намераны адаптаваць школьныя будынкі ў Камені і ў Рэпісках на клубы, паколькі ў гэтых вёсках у наступным навучальным годзе не будуць праводзіцца школьныя заняткі з-за недахопу дзяцей.

У Ласінцы і ў навакольных вёсках сяляне

ГАДУЮЦЬ МНОГА СВІНЕЙ.

У сярэднім ёсць тут 63 штукі свіней на 100 га зямельных угоддзяў. Лік большы ад сярэдняй павятовай у гадоўлі свіней. Сяляне пабудавалі шмат новых абораў, значна паправілася гігіена хлявоў і, між іншым, з-за гэтага павысіліся эфекты ў прадукцыі свініны. Апрача таго, сяляне пачалі заводзіць у сябе пародзістых свінаматак і спецыялізавацца ў гадоўлі найбольш паплатных свіней.

*Тэкст і фота: Янка Цялушэцкі*

# У Навасёлках хочуць жыць культурна

Інструктар Галоўнага праўлення БГКТ на Сямяціцкі павет, сябар Міхась Вішанка, які адначасова з'яўляецца сакратаром грамадскага камітэта ПАРП у Мілейчыцах, знянацку запытаў мяне:

— Ты быў у Навасёлках?

— Быў, — гавару яму, — аднак даўно.

— Дык абавязкова адпраўляйся туды яшчэ сёння. Я ўжо паведаміў сялянам, што ты прыедзеш. Яны чакаюць цябе. Не падвядзі.

У яго голасе было штосьці такое, што выклікала ў мяне і трывогу, і зацікаўленне. Я прыпомніў сабе гэтую невялічкую вёску, якая раскінулася ля шашы, што спалучае Кляшчэлі з Мілейчыцамі. Дзесяткі разоў праязджаў я праз Навасёлкі і толькі аднойчы на некалькі гадзін спыніўся ў солтыса Мікалая Турыка. Гэта былы заслужаны франтавік, старшы сяржант Савецкай Арміі — спярша танкіст, а пасля артылерыст. Тады расказваў ён мне пра свае ваенныя дзеі. Расказваў і сам дзівіўся, што можа пра іх расказваць, бо смерць яму неаднойчы зазірала ў вочы.

— Што там здарылася? — пытаю Вішанку.

— Справа ёсць такая, — гаворыць ён. — У Навасёлках актыўная моладзь. Нядаўна заснавалі мы там гурток нашага таварыства, ёсць гурток Саюза вясковай моладзі, сельскагаспадарчы гурток і вясковая партыйная арганізацыя. У Навасёлках хацелі б жыць культурна. Аднак няма там дзеля гэтага ўмоў. Яны звярталіся да нашага ГС-у. Аднак старшыня гээсаўскага праўлення ў Мілейчыцах Сільвестар Скепка катэгарычна адказаў ім, што ніякага клуба ў Навасёлках абсталяваць ён не можа. У нас з гэтым зусім дрэнна. На тэрыторыі дзейнасці мілейчыцкага ГС-у існуе толькі адзін клуб. Я гаварыў пра гэта на пленарным пасяджэнні павятовага камітэта ПАРП у Сямяцічах. Сакратар Мікалай Карпюк абяцаў дапамагчы.

«Ніва» ніколі не адмаўляецца, калі трэба дапамагчы ў добрай, карыснай, грамадскай справе. Еду тады, як мага хутчэй у вёску Навасёлкі.

Солтысава жонка частуе «чым хата багата», а солтыс заводзіць гутарку пра справы вёскі.

— Шмат чаго змянілася ў нас за апошнія гады. Вось бачыце, маем ужо электрычнае святло...

У той момант я ўспомніў закопчаную газоўку, пры якой папярэднім разам запісваў успаміны майго гаспадара.

— Электрычныя лямпачкі загарэліся ў нас у маі мінулага года. Цяпер амаль у кожнай хаце знаходзіцца радыёпрыёмнік, а ў некаторых і па два. Штораз больш тэлевізараў. Мы глядзім не толькі варшаўскую тэлевізійную праграму. Брэст таксама даволі добра ў нас і відаць, і чуваць.

— Толькі на вечарынкі вымушаны мы па-даўнейшаму хадзіць ад суседа да суседа, — дадае солтысава дачка Галенка.

— І з кудзеляй? — пытаюся яе, а яна смяецца, быццам нейкі жарт пачула. Выручае яе маці.

— Хто цяпер з маладых, — кажа яна, — з кудзеляй па вечарынках ходзіць. У іх бы ніткі як вяроўкі атрымаліся! Толькі старэйшыя яшчэ часам то крыху воўны, то валакна на мяшкі спрадуць на калаўротку. А маладыя? Дзе ім зараз да гэтага! Пасядзець, пасмяяцца, паспяваць, нешта звязаць — гэта іх справа.

— Толькі не маем дзе збірацца, — паўтарае Галенка. — Мы маем двух гарманістаў, нашы дзяўчаты прыгожа спяваюць. Калі б нам хто крыху дапамог, мы маглі б заснаваць нейкі мастацкі калектыў.

— А школа ў вас ёсць? — пытаю.

— Ёсць, чатырохкласная, з адным настаўнікам.

— Дык можа гэты настаўнік? — прапаную.

— Ён?! — усклікнула Галенка. — Гэта старэйшы ўжо чалавек. Ад яго мы не можам спадзявацца ніякай дапамогі. Ды жыве ён у Мілейчыцах, а да Навасёлак толькі даязджае. Нам бы нейкі клуб прыдаўся.

Ізноў, такім чынам, дайшлі мы да клуба. Месца на яго абсталяванне ёсць. Аляксей Воўчык згодны ў сваёй новай, прасторнай мураванцы адступіць два пакойчыкі для патрэб клуба. Ужо цяпер амаль палавіна вёскі штовечар збіраецца ў Воўчыка, каб паглядзець тэлевізійную праграму, каб паспяваць. або і так звычайна пасядзець, пагутарыць.

— Прэзідыум грамадскай рады ў Мілейчыцах, — кажа гэты гаспадар, — згодны плаціць мне за памяшканне. Толькі ГС не згаджаецца абсталяваць у нас свайго клуба. Вось дапамажыце, калі ласка.

Дык накіроўваюся ў праўленне мілейчыцкага ГС-у. Старшыня Сільвестар Скепка сцвярджае:

— У Навасёлках у ніякім выпадку мы свайго клуба рабіць не будзем. Хай там «Рух», калі хоча, абсталёўвае свой клуб. На культурна-асветную дзейнасць мы маем усяго 18 тысяч злотых. А ў Навасёлках толькі 24 гаспадары. Гэты клуб прыносіў бы нам адны страты. Мы ў 1971 годзе абавязаны выпрацаваць аж 850 тысяч злотых чыстага прыбытку. Абсталяванне аднаго клуба каштуе каля 50-ці тысяч злотых. Мы маем клуб у вёсцы Гарнова на тэрыторыі ГРН Дзядковіцы. Гэтага нам хопіць, бо толькі адна з ім бяда. Цяпер кожная вёска хацела б мець уласны клуб. Навасёлкі не першыя звяртаюцца да нас з гэтай справай.

Можна разумець гандлёвыя меркаванні старшыні ГС-у. Аднак хто калі культурна-асветную дзейнасць мерыў залатоўкамі так званых страт? *У гэтай галіне грамадскага жыцця сапраўдныя страты ўзнікаюць толькі тады, калі няма менавіта гэтай культурна-асветнай дзейнасці.* Дык маем мы надзею, што знойдзецца спосаб, каб дапамагчы сялянам у Навасёлках у іх імкненнях да болей культурнага жыцця. Чакаем тады запрашэння на ўрачыстае адкрыццё клуба ў гэтай вёсцы.

*В. Рудчык*

БІБЛІЯТЭЧКА „НІВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ ○

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцікі або шнурочак.*



Самым спакойным палоннікам быў ранены ў руку. У яго замест рук былі звязаны ногі. Ён сядзеў, апусціўшы галаву і ні на што не звяртаў увагі. Нават не прасіў ні есці, ні піць. Здаровая рука яго была засунута пад сагнутыя калені. Хлопцы нават не правяралі, ці добра звязаны ў яго ногі. Цяпер Віктар неяк звярнуў увагу, што здаровая рука палоннага ўвесь час уздрыгвае. Падышоў, паглядзеў і крыкнуў:

— Эге! Гэты нумар не пройдзе!

Аказалася, што за доўгі час ён пальцамі здаровай рукі і трэсачкамі развязаў сабе вяроўкі на нагах. Прыйшлося прыкруціць яму здаровую руку да нагі.

Хлопцы яшчэ раней дагаварыліся, што ноччу вартаваць будуць разам, а не па чарзе. Сярод гэткай кампаніі боязна заставацца аднаму нават і тады, калі яны звязаныя, — казалі яны.

І яны абодва заставаліся на варце пасля таго, як усе бандыты паснулі. Утыркнуўшыся галавамі адзін аднаму ў спіну, яны храплі на ўвесь лес.

— Піць! — пачуўся голас раненага.

Узялі бляшанку — вады няма. Няўжо дзеля гэтага бандыта ісці ў цемру па ваду? Але ранены цяжка дыхаў, стагнаў — і ў хлопцаў не хапіла духу адмовіць яму. Схапіўшы бляшанку, Віктар пабег па ваду.

Мірон застаўся адзін. Жудасна яму зрабілася. Усё навакол стала нібы інакшым. Бандыты ўсе нібы пачалі варушыцца, трэсціся, хоць у той жа час храплі так, што рэха па лесе ішло.

Калі Віктар вярнуўся, Мірон прашаптаў:

— Больш па ваду не хадзі. Можа, гэтай хопіць, а калі не, — хай крыху пацерпяць. Мне пачало здавацца, нібы яны ўсе ўзад і ўперад торгаюцца. А спяць яны нават занадта моцна. Ніхто з іх увесь час не павярнуўся на другі бок. У гэтым няёмкім становішчы дзіва так праляжаць.

— Трэба паглядзець! — сказаў Віктар.

Падышлі да адной пары, дакрануліся.

— А? Што? Хто тутака? Пайшоў к чорту! — пачуўся сонны голас.

Памацалі вяроўкі — мокрыя, лахматыя!

— Ах, каб на іх ліха! — ускрыкнуў Віктар. — Гэта ж яны грызуць адзін аднаму вяроўкі. Зараз жа рассуньцеся! Ну! А то страляць будзем! Раз... два...

Палоннікі нездаволена пачалі адсоўвацца і бурчаць:

— Вось чортавы дзеці!

Прыйшлося праверыць іх. У дваіх вяроўкі былі слюнявыя і пагрызеныя. Каб яшчэ гадзіна, другая, справа была б дрэнная. Замацавалі зноў і размясцілі іх паасобку.

Ноч цягнулася доўга, марудна. Усё здавалася, што бан-



зумеў, у якім сур'ёзным, адказным і небяспечным становішчы засталіся хлопцы ў гэтую ноч. Малейшая хіба — і яны маглі загінуць. А Саўчук адчуваў бы сябе вінаватым у іх гібелі.

Якая ж была яго радасць, калі ён здалёк убачыў іх жывымі на сваёй варце! Хлопцы радасна махалі рукамі, шапкамі і так крычалі «ўра», што ўспудзілі зайца з-пад далёкага куста. А для бандытаў гэты радасны крык азначаў канец надзеі...

Саўчук абняў рабят, нібы родных, якіх не бачыў шмат часу.

— Малайцы, хлопцы! — сказаў ён. А цяпер давайце збірацца дадому.

...Праз дзве гадзіны ў лесе было ўжо зусім ціха. Сіратліва курэў пакінуты агонь. Каля яго валяліся непатрэбныя рэшткі разабранага зубра. Убаку бялеўся пагурачак свежага пяску — бясслаўная магіла чорнага бандыта.

Лясныя жыхары асмялелі. Залескатала ўверсе вавёрка, аглядаючы пакінутую стаянку. Зноў закаркалі вароны і паступова авалодалі рэшткамі зубра. А да іх ужо накіраваўся воўк...

У Палескай пушчы распачыналася нармальнае жыццё, парушанае было чалавекам.

дыты зноў нешта надумалі. Цяпер яны ўжо так не храплі, не ляжалі спакойна, як раней. Часта варочаліся з боку на бок. Хлопцы пільна сачылі, каб яны не зблізжаліся і ўвесь час пакрыквалі:

— Адсуньцеся!.. Далей!..

Праз якую гадзіну зноў усё сцішылася.

Было ўжо далёка за поўнач, калі хлопцы пачулі нейкі смурод, нібы ад смаленага адзення.

— Што гэта? Ці не падсмаліўся хто?

— Мусіць, той, што бліжэй да вогнішча.

Падышлі да яго. Віктар схіліўся, а ў гэты момант адна рука абхапіла яго за шыю, а другая ўхапілася за рэвальвер.

— Мірон, страляй! — крыкнуў ён немым голасам.

Бандыты заварушыліся, загулі, пачалі куляцца бліжэй. Хлопцам здавалася, што яны ўсе ўжо развязаліся і зараз накінуцца на іх.

І вось Віктар адчуў, як жалезная рука адабрала ў яго рэвальвер...

— Страляй! Страляй! Хутчэй! — крычаў ён у роспачы.

Але ў гэты момант пачуўся спакойны голас Мірона:

— Палажы рэвальвер на зямлю і адсоўвай руку! Раз... два...

Пальцы бандыта расшчапіліся, і рэвальвер застаўся на зямлі. Віктар схапіў яго і выпрастаўся.

Мірон стаяў за спіной бандыта, засунуўшы рэвальвер за яго каўнер. Халодная сталь прымусіла бандыта пакарыцца....

— Звязвай рукі! — сказаў Мірон.

Віктар зноў старанна звязаў іх. Рукі былі пасмаленыя, слізкія...

Зрабілі новую праверку. Размясцілі ўсіх вакол вогнішча за некалькі крокаў ад агню. Востры момант усхваляваў іх, але было ціха, нібы нічога не здарылася. Толькі Віктар, адвёўшы Мірона ўбок, з абурэннем казаў:

— Чаму ж ты не страляў? З-за тваёй непатрэбнай літасці мы абодва ледзь не загінулі!

— Ніякай літасці тут не было, а разумнае меркаванне, — адказаў Мірон. — Каб я стрэліў адразу, то мог трапіць і ў цябе, бо вы былі сашчапіўшыся. Каб я прыставіў рэвальвер да яго галавы, ён мог бы адхіснуцца і нават выбіць у мяне рэвальвер. А калі я засунуў рэвальвер яму за каўнер, то бандыт ужо нічога не мог зрабіць, а я заўсёды паспеў бы стрэліць.

— Але ж і цярплівы, гад! — дзівіўся Віктар. — Смаліць руку разам з вяроўкай — і ні гу-гу!

Нарэшце прыйшоў канец і гэтай страшнай ночы. Сонца яшчэ не вылезла з-за лесу, як між дрэў паказаліся постаці чырвонаармейцаў. Было іх чалавек дванаццаць. Наперадзе ішоў, лепш сказаць, бег камандзір з трыма кубікамі ў пятліцах. Гэта быў Саўчук. Ён лепш за іх ра-

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# ЁН АДКРЫЎ КОСМАС



Чалавек — сімвал, першы касманаўт Юрый Гагарын.

12 красавіка 1961 г. адбыўся першы ў гісторыі чалавецтва касмічны палёт чалавека. Пілотам касмічнага карабля быў савецкі касманаўт Юрый Гагарын. Пілатаваны ім карабль «Восток», высланы з касмадрома Байканур, акружыў адзін раз зямлю і шчасліва вярнуўся на яе.

Гэты гістарычны палёт адкрыў чалавеку вароты ў космас. Пачалася новая эпоха ў здабыванні космасу. І цяпер цяжка нам паверыць, што першы адкрывальнік космасу стартаваў у свой эпахіяльны палёт усяго дзесяць год таму назад, цяжка таксама пагадзіцца з фактам, што няма яго ўжо сярод нас, жывых зямлян.

Ю. Гагарын нарадзіўся 9 сакавіка 1934 г. у Гжацкім раёне Смаленскай вобласці ў сям'і калгаснікаў. У 1941 г. паступіў вучыцца ў сярэднюю школу, але нашэсце гітлераўцаў перапыніла яго вучобу. Пасля вайны Ю. Гагарын закончыў рамеснае вучылішча і індустрыяльны тэхнікум.

Свае першыя крокі ў авіяцыі пачаў у аэраклубе, будучы студэнтам тэхнікума. Пасля вучыўся ў авіяцыйным вучылішчы. З 1957 года, калі Гагарын скончыў гэтае вучылішча па першаму разраду, пачаў служыць лётчыкам. Як адзін з таленавітых і мужных лётчыкаў-знішчальнікаў Ю. Гагарын быў залічан у атрад касманаўтаў. У 1968 г. ён з адзнакай закончыў Ваенна-паветраную інжынерную акадэмію.

Загінуў 27 сакавіка 1968 г. пры выкананні трэніровачнага палёту на самалёце.



*У прыватным жыцці Ю. Гагарын быў добрым сем'янінам, любіў са сваімі найбліжэйшымі праводзіць свабодны час. Любіў таксама фатаграфаваць. На здымку: апошні кадр, зроблены касманаўтам.*



*У дружнай сям'і касманаўтаў (злева направа): А. Нікалаеў, Ю. Гагарын, Б. Вольнаў, Г. Шонін.*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

# РЫС

Рыс, калі яго не падаюць з вострымі прыправамі ці тлустымі соусамі, зніжае ціск крыві. Розныя клеікі з рысу робяць пры захворванні страўніка. Каб падрыхтаваць такі клеік, трэба шклянку абпаласканага рысу зварыць у 4 шклянках вады на малым агні, а пасля працерці рыс праз нейлонавае або валасяное сітка. Пасля рыс трэба крыху пасаліць і, калі доктар не забараніў, дадаць чайную лыжку свежага масла.

З рысу можна зрабіць шмат смачных патраў.

Можна зрабіць рыс з разынкамі і сушанымі слівамі. Варым звычайную рысавую кашу, беручы на 1 шклянку рысу 2 шклянкі вады, а калі вада выпарыцца, яшчэ 2—3 шклянкі малака. Разам з малаком дадаем лыжку масла, крыху разынак і сушаных сліў без костачак. Варым далей рыс на вельмі, вельмі малым агні. Надта смакуе ён дзецям.

Можна зварыць рагу: рыс з пячаркамі (шампіньёнамі), або іншымі грыбамі. Для гэтай патравы неабходна ўзяць на 2 шклянкі рысу паўкілаграма грыбоў (найлепш узяць пячаркі, але могуць быць масляты, баравікі, рыжыкі), лыжку масла ці маргарына, 50 г. капчонай грудзінкі ці сала, 1 цыбулю, зубок часнаку, паўшклянкі чырвонага віна, паўшклянкі смятаны, 2 памідоры, шклянку зялёнага гарошку.

Рыс варым у 4 шклянках булёну. Грыбы мыем, дробныя пакідаем цэлымі, а буйнейшыя рэжам. На патэльні падсмажваем грудзінку, нарэзаную дробнымі кавалачкамі, цыбулю, расцерты зубок часнаку, грыбы, соль і перац па смаку. Падсмажваем усё мінут 5—10. Дадаем пасля віно і смятану і тушым яшчэ хвіліну ўсё пад крышкай.

Звараны рыс вымешваем з парэзанымі памідорамі і звараным (ці кансерваваным) зялёным гарошкам, а таксама з растопленым маслам ці маргарынам. Пасля гэтага выкладаем рыс на вялікую талерку, паліваючы яго зверху тушанымі грыбамі.

Можна зрабіць таксама рысавую запяканку. Асабліва надаецца гэта патрава на восень, бо можна яе зрабіць з свежымі яблыкамі ці слівамі. На паўкілаграма рысу бяруць прыблізна кілаграм яблыкаў ці сліў, паўкілаграма цукру, бутэльку салодкай смятанкі. Звараны рыс кладуць пластамі ў тартоўніцы, памазанай тлушчам і абсыпанай молатымі сухарамі. На кожны пласт рысу кладуць свежыя слівы без костачак або абабраныя, нарэзаныя невялікімі скрылёчкамі яблыкі, пасыпаючы кожны пласт цукрам з карыцай (цынамонам). Апошні пласт рысу спырскваюць маслам і ставяць тартоўніцу ў гарачую духоўку. Пякуць мінут 40. Выняўшы запяканку і астудзіўшы яе, паліваюць салодкай смятанай, узбітай з цукрам.

*Гаспадыня*

Ч. АМОРТ

ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Тайна агента А-54

Паспяхова развівалася супрацоўніцтва паміж разведвальнымі органамі УВОД і адпаведнымі савецкімі службамі. Быў наладжан узаемакарысны абмен тайнай інфармацыяй.

Аднак для такой дзейнасці чэхаславакам патрабаваліся санкцыі з боку ўрада, які знаходзіўся ў Лондане. Апошні ж не праяўляў з гэтай прычыны ніякай радасці. Наадварот, Бенеш у сваім пасланні, накіраваным 19 жніўня 1940 года ў Цэнтральны савет Супраціўлення Чэхаславакіі, выказваў занепакоенасць тым, што разведвальная група можа ўвайсці ў «сферу савецкай разведкі». Ён патрабаваў улічваць, што гэта не адпавядае інтарэсам Англіі. Асобныя паведамленні можна перадаваць непасрэдна прадстаўнікам Савецкага Саюза, але зусім не тыя, што паступаюць ад Франты, — такое было распараджэнне, атрыманае з Лондана.

Трэба адзначыць, што, побач з інфармацыяй, якая мела міжнароднае значэнне, Франта нярэдка здабываў звесткі, што датычылі чэхаславацкага руху Супраціўлення. Іх крыніцай было пражскае ўпраўленне гестапа, якое займалася выяўленнем і знішчэннем падпольных груп.

Звычайна Франта атрымліваў цікавячыя яго матэрыялы на ноч. Тады жыхарам кватэры сям'і Янотка, дзе размяшчалася падпольная фоталабараторыя УВОД, было не да сну. Тэрмінова рабіліся фотакопіі. Гэта дзейнасць Франты дапамагла выратаваць жыццё многім антыфашыстам, якія здолелі своечасова выслізнуць з рук гестапаўскіх сышчыкаў.

Нарэшце ў Лондан паступіла паведамленне ад Франты, якога чакалі з вялікай нецярплівасцю, у ім ён паведамляў: «Наступленне на Англію павінна пачацца 15 верасня. Далей гаварылася, што ўварванню будзе папярэднічаць масіраваны налёт бамбардзіроўшчыкаў, якія «пойдуць хвалямі і выкарыстаюць слёзатачывы газ і газ, што дзейнічае на нервы. Адначасова з гэтым будзе зроблена спроба высадкі з амфібій, якіх прыкрыюць катэры і падводныя лодкі».

Аж да 10 верасня Франта перадаваў данясенні аб ходзе падрыхтоўкі да ўварвання. Ён паведамляў аб колькасці пераправачных сродкаў, аб тактыка-тэхнічных даных машын-амфібій, пералічваў порты акупіраваных краін, у якіх канцэнтруюцца часці вермахта СС, што прызначаюцца для нападаў на Англію.

У радыёграме, што паступіла з Лондана ў Прагу 13 верасня, гаварылася:

«Паведамленне Франты аб апошніх прыгатаваннях да нямецкага ўварвання ў Англію супадае са звесткамі, атрыманымі намі з іншых крыніц. Такім чынам, уварванне, як відаць, з'яўляецца справай бліжэйшых дзён. Англійскі народ, армія і ўрад гатовы да гэтага гістарычнага моманту і ўпэўнены ў дзейнасці сваіх абаронных сродкаў і абароннай праграмы...»

Аднак да ўварвання справа не дайшла. Тут адыгралі ролю розныя прычыны.

Але вось Франта перадаў другую важную навіну: ОКВ (вярхоўнае камандаванне вермахта) інтэнсіўна працуе над распрацоўкай новага аператыўнага плана, які носіць кодавую назву «Барбароса». Чэхаславацкая разведка запатрабавала ад Прагі высветліць, аб чым ідзе гутарка. У канцы кастрычніка Франту ўдалося высветліць што «Барбароса» — гэта план нападу на Савецкі Саюз.

Цяпер усе паведамленні, што датычылі Савецкага Саюза, сталі асабліва важнымі. Удалося ўстанавіць, а Франта пацвердзіў, што адна са старшых медсясцёр германскага Чырвонага Крыжа, якая валодала рускай мовай і працавала ў апараце імперскага пратэктара ў Празе, атрымала каля 20 кастрычніка папярэдняе прадпісанне ў Адэсу. Адначасова ёй даручылі адабраць сярод нямецкіх медсясцёр у Празе дваццаць жанчын, якія гаварылі б па-руску, яны паступалі ў яе распараджэнне.

Такія папярэднія прадпісанні з'явіцца на службу ў розныя гарады Савецкага Саюза атрымалі многія служачыя апарату імперскага пратэктара ў Празе. На адпаведным дакуменце, які быў ім уручан, стаяў надпіс: «Быць гатовым па выкліку заступіць на службу ў пэўным месцы».

(Працяг будзе)

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАВЕДАМЛЯЮ РЭДАКЦЫІ

Паважаная рэдакцыя! Прыемна мне паведаміць вам аб тым, што на тэрыторыі, дзе я працую пісьманосцам, дабіўся больш як 100 падпісчыкаў «Нівы». Гэта рэкорд у гісторыі нашай пошты. Яшчэ ніколі ніводзін пісьманосец не меў больш 100 падпісчыкаў. Ды падпіскі не зроблены на адзін месяц. Яны гадавыя і квартальныя.

А варта заўважыць, што на маім абшары жыве толькі 200 сем'яў. Я думаю, што лік падпісчыкаў «Нівы» не толькі ўтрымаю на працягу года, але яшчэ і павялічу.

*Мікалай Панфілюк, пісьманосец з пошты ў Дубічах Царкоўных*

Сардэчна дзякуем за вашу працу, сябра Панфілюк. Лічым яе высокародным чынам, звязаным з 15-ай гадавінай БГКТ і «Нівы». *Рэдакцыя*

## КАСТУСЬ ЯКАНЮК



Ужо 26 год педагагічнай працы мае за сабою кіраўнік пачатковай школы ў Старым Корніне Кастусь Яканюк. Шмат стараннасці, майстэрства, умення ўкладае ён у сваю справу, каб дабіцца ад вучняў свядомага засваення прадметаў.

Да 1953 года тавaрыш Яканюк узначальваў школу у Чыжыках (Гайнаўскі павет). У 1953 годзе пераходзіць у Стары Корнін. Школа там мела сумны выгляд. Чорныя сцены, вокны без шыб, а навокал балота і пустазелле. Пад кіраўніцтвам Кастуся Яканюка школьны будынак змяніў выгляд. З панадворку ён абабіты дошкамі і памаляваны, а ў сярэдзіне чысціня і парадак. Навакол яго замест пустазелля пасаджана многа кветак, дэкарацыйных дрэўцаў і кустоў. Адрамантаваны таксама гаспадарчы будынак, а пляц абгароджаны сеткай. У 1960 годзе пабудавана гаспадарчым спосабам майстэрня для тэхнічных заняткаў.

У гэты час Яканюк з цэлай энергіяй выхоўваў і навучаў не толькі школьную, але і пазашкольную моладзь. Асяроддзе было цяжкае, моладзь вольныя хвіліны тапіла ў гарэлцы. Была гэта адна з тых вёсак, аб якіх гаворым што «дошкамі забітая». Дзякуючы невычарпальнай энергіі Кастуся Яканюка для Старога Корніна адкрыліся вокны на свет. Шмат моладзі пачало вучыцца ў горадзе, а тыя, якія заставаліся дома, вольныя ад працы хвіліны праводзілі ў самадзейным гуртку, створаным Яканюком. Гурток гэты выступаў у навакольных вёсках з п'есамі «Прымакі», «Паўлінка», «Мікітаў лапаць», «Конская кніжка» і іншымі. Найбольш актыўнымі самадзейнікамі з'яўляліся: Зоцік Казімірук, Валя Гаўрылюк, Таіса і Янка Харытанюкі, Анна Тамашук, Мікола Гаўрылюк, Валодзя Шэшка.

За гады кіраўніцтва таварыша Яканюка 35 чалавек закончыла сярэднюю адукацыю, а 5 чалавек — вышэйшую адукацыю. Адна асоба атрымала ступень доктара, а 2 асобы — ступень магістра.

Апрача педагагічнай працы, Кастусь Яканюк з'яўляецца вядомым грамадскім дзеячом. Выконвае абавязкі сакратара грамадскага камітэта ПАРП, раднага ГРН, члена прэзідыума ГРН, раённага апекуна і інш. За сваю педагагічную і грамадскую працу атрымаў шмат узнагарод: «Залаты Крыж Заслугі», «Залатую Адзнаку ЗНП», «Адзнаку 15-годдзя ПЧК» і «Медаль 1000-годдзя Польскай Дзяржавы».

Мае ён таксама і баявыя ўзнагароды: «Медаль Перамогі і Свабоды», «Медаль за Варшаву» і «Адзнаку Грунвальда».

Кастусь Яканюк — гэта чалавек, які ўсю сваю душу і энтузіязм аддаў справе выхавання вясковых дзяцей і моладзі. *Васіль Сегень, Стары Корнін*

## ЧЫЖОЎСКІЯ ПІСЬМАНОСЦЫ

Вася Бількевіч і Валодзя Тыханюк — абодва яны працуюць пісьманосцамі на пошце ў Чыжах. Яны штодзень даручаюць многім людзям шмат розных газет, часопісаў, лістаў і пачак. За дакладнасць і тэрміновасць у даручэнні абодва пісьманосцы здабылі сабе пашану сярод людзей. У суме абодва пісьманосцы маюць 677 падпісчыкаў розных газет і часопісаў. У тым ліку на першым месцы знаходзіцца наш тыднёвік «Ніва» — 189 падпісчыкаў.

Вася Більскевіч абслугоўвае чатыры вёскі: Чыжы, Ракавічы, Асоўка і Збуч. Мае ён падпісчыкаў «Нівы» — 114.

Валодзя Тыханюк абслугоўвае пяць вёсак: Курашава, Ляды, Лушчы, Падрэчаны і Лянева. «Ніва» тут мае 75 падпісчыкаў.

*Я. М., Гайнаўскі павет*

## У ПЯНЬКАХ

Пры клубе селяніна ў Пяньках арганізаваўся аматарскі калектыў. Прымае ён удзел у конкурсе на найлепшы тэатральны калектыў. Зараз падрыхтоўваецца польская п'еса «Пётр» і беларуская «Люцынка-інжынерыха». Вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы п'ес аказваюць работнікі Дома культуры ў Міхалове.

У клубе селяніна ў Пяньках сістэматычна два разы ў тыдзень (аўторак, пятніца) чытаюцца лекцыі на сельскагаспадарчыя тэмы. Вядзе заняткі грамадскі аграном Міхал Грыка. А грамадскі заатэхнік абучае сялян рацыянальнай жывёлагадоўлі. *К. Л., Пянькі*

## МОЛАДЗЬ КАТЛОЎ

Вёска Катлы ляжыць у пяці кіламетрах ад Бельска, пры шашы Нараў—Бельск. Моладзь аўтобусам даязджае на вучобу ў сярэдніх школах, а таксама на работу на прадпрыемствах. Дык нягледзячы на тое, што моладзь наша працуе і вучыцца ў Бельску, яна штодзённа прыязджае да хаты. Такім чынам, як рэдка дзе, у Катлах многа моладзі. Належыць яна ў асноўным да двух арганізацый: да Беларускага таварыства і да Саюза вясковай моладзі (ЗМВ).

Нядаўна на сходзе гуртка ЗМВ старшыня гуртка Іван Бабулевіч уручыў 10 членскіх білетаў новым членам. Катлоўская моладзь пастанавіла ажывіць культурна-асветную дзейнасць. Прадстаўнікі гуртка БГКТ і ЗМВ апрацавалі план працы, наладзілі сувязь з настаўнікамі мясцовай школы і будуць супольна намагацца, каб арганізаваць мастацкую самадзейнасць, дыскусійныя вечары, забавы, спартыўныя ігры. Пакуль што ёсць цяжкасці з арганізацыяй вечарын, бо няма святліцы, а школа таксама цесная. Моладзь хоча адзін з пустых дамоў у вёсцы адрамантаваць і зрабіць з яго святліцу.

*К. С., Катлы*

## КУРС РУСКАЙ МОВЫ

Пры пачатковай школе ў Дубічах Царкоўных распачаўся нядаўна курс вывучэння рускай мовы другой ступені. Запісалася на яго 15 чалавек — у асноўным моладзь. Заняткі адбываюцца вечарамі два разы ў тыдзень. Кіруе курсам настаўніца Марыя Марчук.

*П. Дубовіч*




*Дарагое Сэрцайка!*

Жыву я на вёсцы. Мне 17 год. Мая вёска вялікая і многа ў нас моладзі. Часта з далёкай ваколіцы хлопцы прыязджаюць да нас на забаву. Адным разам, будучы ў горадзе, я пазнаёмілася з хлопцам П., які некалькі месяцаў працаваў у МБМ трактарыстам. Ён мне вельмі спадабаўся, я яму таксама. Некалькі разоў адводзіў мяне дамоў. Гаварыў шчыра, што мяне кахае. Але прыйшоў час ісці ў войска. Перад ад'ездам абяцаў мне, што будзе пісаць пісьмы, але ніводнага я не атрымала. Хутка прайшлі два гады, і П. вярнуўся з войска дамоў. Прыехаў у маю вёску на забаву, але не адазваўся, хаця мяне і бачыў. А можа ён мяне не пазнаў? А можа таму, што цэлы вечар правёў з Надзяй? Другім разам, калі таксама пабываў ён у маёй вёсцы, я першая, мінаючы яго на вуліцы, прывіталася з ім. Ён, не гледзячы на мяне, адказаў мне ціха на маё прывітанне.

Парай мне, Сэрцайка, ці калі П. прыедзе ў нашую вёску, пагаварыць з ім, ці мо ўвогуле не думаць аб ім, хоць я яго яшчэ кахаю.

*Рэня з Гайнаўшчыны*

*Рэня!* З лісту твайго вынікае, што ты — дзяўчына амбітная і культурная, таму вось і павінна ты (хоць цяжка) перастаць нават і думаць аб ім. Не спадабаўся мне твой хлапец за яго паводзіны. Бо хоць не напісаў пісьма, хоць кідаў пустыя словы, усё гэта можна яшчэ дараваць з увагі на яго маладыя гады. Але хлапец жа ж пабываў, як кажуць, у свеце, а цяпер ужо мае гэтыя 23 гады, а пры сустрэчы з табой нават не прывітаўся. Прывітанне ж да нічога не абавязвае, яно сведчыць аб узроўні асабістай культуры чалавека. Таму вось раю табе, Рэня, пакінуць нават думку аб П., які не заслужыў на тваe пачуцці. *Сэрцайка*

## ЯШЧЭ РАЗ АБ КОНКУРСЕ

Конкурс школьнай моладзі на беларускую песню — 71, які быў арганізаваны гайнаўскім аддзелам БГКТ і інспектаратам асветы, выклікаў вялікае зацікаўленне ва ўсіх школах Гайнаўскага павета. Змяшчаем здымкі наступных удзельнікаў конкурсу.



*Ліля Валкавыцкая з пачатковай школы ў Белавежы выканала «Лясную песню».*



*Аліцыя Вдоўская з беларускага ліцэя ў Гайнаўцы прыгожа спявала «Зорку Венеру».*



*Вучаніца 8-га класа Ніна Конах з пачатковай школы ў Чыжах заняла трэцяе месца. Спявала «Многа ў полі ёсць дарожак» і «Нёман».*



*Саліст Юрка Харкевіч з беларускага ліцэя ў Гайнаўцы выступаў з песнямі «Вечарам пагодным» і «Песня пра лён».*

*Фота Віктар Бура*

## САМАДЗЕЙНІКІ

Драмгурток пры гуртку БГКТ у Локніцы існуе ад 1958 года. З году ў год у асенні і зімовы час на сцэне локніцкай школы выступаюць самадзейнікі са сваёй праграмай. Моладзь прыходзіць, а праз некалькі гадоў адыходзіць з драмгуртка. Дзяўчаты выходзяць замуж, выязджаюць на работу ў горад, хлопцы ідуць у войска і г.д. Але калектыў існуе. Моладзь з Локніцы штогод падрыхтоўвае беларускія п'есы, спявае на сцэне ў Локніцы і ў іншых вёсках беларускія песні.

У гэтым годзе драмгурток пад кіраўніцтвам Яна Сцепанюка выступаў на сцэне ў Локніцы і некалькі разоў у суседніх вёсках.

Беларускія п'есы, песні і гумар карыстаюцца вялікім поспехам у гледачоў. І калі выступаюць самадзейнікі з Локніцы, у зале заўсёды цесна.

*З. К., Локніца*

## ПРОБНЫ ЭКЗАМЕН

17 сакавіка ў Бельскім беларускім ліцэі IV-я класы пісалі пробны экзамен па польскай мове. Панавала сапраўдная матуральная атмасфера. У спартыўнай зале расстаўлены былі парты. Ад 8 да 12 гадзіны кожны вучань пісаў адну з выбраных тэм. Ды і перажываў неяк так, як быццам бы гэта былі сапраўды выпускныя экзамены.

У нас дзяржаўныя экзамены распачнуцца 10-га мая. І такі пробны экзамен многа нам дапамог, бо пазнаёміў з усёй матуральнай працэдурай.

*Вера Ахрымюк, Бельскі бел. ліцэй*

## ПЕРАДАВЫ ЖЫВЁЛАГАДОЎЦА



Мікалай Федарук з Плёсак славіцца ў вёсцы і наваколлі гадоўляй огераў. Вось гэты, што на здымку, з'яўляецца сакольскай расы. Раней некалькі коней гадоўлі Мікалая Федарука былі прададзены за граніцу. Гэты гаспадар належыць да перадавых членаў таварыства гадоўлі коней у Бельскім павеце.

*Тэкст і фота Лёня Леанюк, Плёскі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Miłosne kłopoty" (radz.), 13—14. „Rozwód z miłości" (węgierski), 15—16. „Popierajcie swego szeryfa" (USA), 17—18.

**НАРАЎКА**

„Wyspa na lądzie" (węgierski), „Poznańskie słowiki" (polski), 14—18.

**НАРВА**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski). 14—18.

**ЧЫЖЫ**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (włoski), 14—18.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Grzech Azizy" (ZRA), „Pali się moja panno" (czeski), 14—18.

**АРЭШКАВА**

„Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), „Taszkient miasto chleba" (radz.), 17—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Doczekać zmroku" (USA) „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 14—18.

**ОРЛЯ**

„Lenin — karty życiorysu" (radz.), „Tabliczka marzenia" (polski) 14—18.

**РАЙСК**

„Szkice warszawskie" (polski), „Sól ziemi czarnej" (polski), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Aleksander Newski" (radz.), 13—14. „Wątła nić" (USA), 15—16. „Abel twój brat" (polski), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Samolot odlatuje o 9-ej" (radz.), 13—14. „Smog" (włoski", 15—16. „Popierajcie swego szeryfa" (USA), 17—18.

**ЯНАЎ**

„Zdarzenie" (jugosł.), 14—18.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Przed wojną" (radz.), 13—14. „Wyzwanie dla Robina Hooda" (angl.), 15—16. „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 17—18.

**МЕЛЬНІК**

„Miłosne kłopoty" (radz.), 13—14. „Rozwód z miłości" (węgierski), 15—16. „Popierajcie swego szeryfa" (USA), 17—18.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Spotkali się w pociągu" (radz.), 13—14. „Rancho Texas" (polski) 15—16. „Faraon" (polski), 17—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Białe słońce pustyni" (radz.), 13—14. „Popioły" (polski), 15—18.

**НОВЫ ДВОР**

„Gang Olsena" (duński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 17—18.



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7352 E-3



 

